наша свабода

№41(128) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

16 КРАСАВІКА 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# КДБ заняўся дэпартацыяй

13 красавіка пасля допыту ў мінскім КДБ з Беларусі быў дэпартаваны прадстаўнік Беларускага цэнтра Чэшскай фундацыі «Чалавек у нядолі» Міхал Плавец. У адмысловай заяве Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі даводзіцца, што ён «неаднаразова ўдзельнічаў у несанкцыяваных масавых акцыях, якія суправаджаліся парушэннямі грамадскага парадку» (аднак гэта было ў якасці карэспандэнта чэшскіх газетаў «Млада Фронта» і «Рэспект»). Да ўсяго М.Плаўцу анулявалі беларускую візу з дазволам на часовае пражыванне ў Беларусі, а таксама забаранілі цягам 5 гадоў уязджаць у краіну. М.Плавец кажа, што беларускія спецслужбы вымагалі ад яго падпісаць дакумент аб прызнанні сваёй віны, але ён гэтага не зрабіў.

Беларускі цэнтр Чэшскае фундацыі «Чалавек у нядолі» быў закладзены ў Празе ў 1998 годзе. З красавіка 2000 года ў Мінску працавала прадстаўніцтва Цэнтра. Мэтаю Беларускага цэнтра ёсць падтрымка беларускага дэмакратычнага руху, недзяржаўных арганізацыяў і незалежных журналістаў. У тым ліку арганізацыя аказвала дапамогу беларускім студэнтам, адлічаным з ВНУ па палітычных матывах, у іхняй вучобе ў Чэхіі.

Ужо маецца рэакцыя чэшскага боку. Як заявіў прэс-сакратар чэшскага міністэрства замежных справаў Алеш Поспішал, «дэпартацыя чэшскага грамадзяніна, прадстаўніка арганізацыі «Чалавек у нядолі», расцэньваецца намі як антыдэмакратычны крок». Паводле яго слоў, перад восеньскімі прэзідэнцкімі выбарамі «Лукашэнка яшчэ раз паказаў свае дыктатарскія манеры».

Тым часам супрацоўнікі беларускіх спецслужбаў кінуліся шукаць актывіста маладзёжнай апазіцыі Іллю Глыбоўскага, які супрацоўнічаў з «Чалавекам у нядолі». 14-15 красавіка ў гатэльным комплексе вытворчага аб'яднання «БелаўтаМАЗ» праходзіў семінар «Студэнцкае кіраванне». Увечары 14 красавіка сюды ў пошуках І.Глыбоўскага ўварваліся міліцыя і супрацоўнікі КДБ. Але нікога не знайшлі. Пазней па дарозе дахаты быў арыштаваны, але потым адпушчаны старшыня Беларускага маладзёжнага інфармацыйнага цэнтра Алесь Міхалевіч, якога зблыталі з І.Глыбоўскім. Увесь учарашні дзень супрацоўнікі спецслужбаў працягвалі пільнаваць будынак, дзе праходзіў студэнцкі семінар.

**Алесь КАТОВІЧ**


Фота IREX/ProMedia

Каб перавозіць абясцэненыя беларускія грошы, трэба мець дарагія браніраваныя спецфургоны

# Яшчэ адзін завод банкрутуе

На мяжы банкруцтва знаходзіцца Магілёўскі машынабудаўнічы завод, дзе толькі запазычанасць па зарплатах складае болей 8 мільёнаў рублёў. Знешні доўг прадпрыемства – 300 мільёнаў рублёў. Галоўны крэдытор ММЗ «Белпрамбудбанк» накат звярнуўся ў суд, і паводле ягонага рашэння на заводзе апісана ўсё абсталяванне. Пакуль што кіраўніцтва Магілёўскага машынабудаўнічага завода прыдумала толькі адзін выхад – скарачэнне тэціны працоўных.

# Кадры радыяцыйнай бяспекі

16 красавіка ў Хойніках на базе палявой станцыі Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага універсітэта імя А.Д.Сахарава (МДЭУ) пачне працу філіял гэтай навучальнай установы. У ім будуць рыхтавацца і перападрыхтоўвацца кадры па пытаннях радыяцыйнай бяспекі. Слухачамі 10-дзённых курсаў стануць кіраўнікі сярэдняга звяна калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Спачатку з Хойніцкага, затым з Брагінскага і Нараўлянскага раёнаў.

# У Гродне здымаюць фільм пра фашызм

21- 23 красавіка ў Гродне расійскі рэжысёр Дзмітрый Астрахан будзе здымаць колькі масавачных сюжэтаў для мастацкага фільма «Бабін яр». Усё адбудзецца ў старажытнай частцы горада на вуліцы Урыцкага. Зараз у гатэлі «Турыст» ідзе адбор 1.000 людзей для ўдзелу ў «масоўцы». Тэма фільма — знішчэнне фашыстамі ў 1941 годзе пад Кіевам 33 тысячаў габрэяў. «Бабін яр» — праект амерыканскі, але здымаюць яго рэжысёры з некалькіх краінаў.

# Беларуская фаўна прыносіць валюту

У Бялыніцкім лясгасе, што на Магілёўшчыне, вырашана заняцца аказаннем паляўнічых паслугаў. У лясгасе лічаць, што багацце жывёльнага і расліннага свету і тутэйшая адпачынкавая інфраструктура прывабяць у мясцовыя лясы аматараў папаляваць з Еўропы і ЗША. Прыкладам, зараз тут гасцююць польскія бізнесоўцы, якія палююць на глушцоў і цецерукоў (цяпер якраз сезон). За аднаго ўпаляванага глушца яны раскашэльваюцца прыкладна на 400 долараў.

# Абразовая кантрабанда

За першы сёлетні квартал берасцейскія мытнікі затрымалі пры спробе вывазу з краіны 80 абразоў 19-га стагоддзя агульным коштам прыкладна 16 тысячаў чалавек. Абразы былі знойдзеныя ў вагонах цягніка маршруту Масква—Варшава. Пасажыры-кантрабандысты хавалі іх унутры спальных паліцаў, у прыбіральнях, тамбурах і столях. Увесь каштоўны канфіскат перададзены ў праваслаўныя храмы і берасцейскі музей «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці».

# Змушаныя апалагеты дэкрэта №8

На прэс-канферэнцыі, прысвечанай уступленню ў дзеянне з 16 красавіка дэкрэта А. Лукашэнкі №8 «Аб некаторых захадах па ўдасканаленні парадку атрымання і выкарыстоўвання замежнай бязвыплатнай дапамогі», намесніца дырэктара Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе Ія Малкіна спрабавала запэўніць, што дэкрэт не будзе замінаць паступленню гуманітарнай дапамогі ў краіну і не ўзмоцніць жорсткасць раней існаваўшых правілаў для яе атрымання.

Адразу ўхіліўшыся ад яго палітычнай ацэнкі, яна заявіла, што з гэтым пытаннем трэба звяртацца да адміністрацыі прэзідэнта. Але на погляд супрацоўнікаў Дэпартамента, калі б дэкрэт быў прыняты не перад прэзідэнцкімі выбарамі, а некалькі гадоў таму, то такога б шуму вакол яго не было. Галоўнае, з ейных словаў, у дэкрэце — замацаванне льготаў у падаткаабкладанні паступаючай гуманітарнай дапамогі, што раней рабілася «негалосна».

Новае ў ім – рэгістрацыя бязвыплатных грашовых сродкаў, якія трапляюць на нашу тэрыторыю. Раней рэгістраваліся толькі маёмасць і тавары, зараз распрацоўваецца інструкцыя, якая вызначыць парадак рэгістрацыі. Плануецца, што ўсяго 6 чалавек, якія працуюць у Дэпартаменце, змогуць апрацоўваць заявы і неабходныя дакументы 2.000 існуючых грамадскіх арганізацыяў за 1-2 дні (максімальна 5 дзён), а атрыманне подпісу А.Лукашэнкі зойме не больш за поўдні.

*Заканчэнне на стар.3*

# Лукашенко – в Зауралье, Иванов – в Минск

*Разрешив наконец посетить А. Лукашенко Свердловскую область, Кремль указал тот уровень, который приемлем для него во взаимоотношениях с белорусским союзником*

Как известно, серия визитов А.Лукашенко в российские регионы была прервана полтора года назад. Аккурат с появлением В.Путина в качестве наследника первого президента Российской Федерации. С тех пор самого верного своего союзника в мире, коим считается руководитель Беларуси, российское руководство дальше Москвы не пускало. Еще будучи директором ФСБ и секретарем Совета безопасности, В.Путин мог реально ощутить те амбиции, которые проявлял А.Лукашенко, представляя себя собирателем земель славянских и советских. Поэтому новый хозяин Кремля, довольно четко и последовательно, уже за первый год своего правления сумел охладить неуемную энергию А.Лукашенко, стремившегося побыстрее создать такое единое с Россией государство, в котором бы ужились два субъекта международного права — Республика Беларусь и Российская Федерация. Но такое фантастическое образование кто молча, а кто в слух называют химерой.

Продолжая находиться во внешнеполитической изоляции, руководитель Беларуси имеет ограниченный выбор своих визитов за пределы страны. И его энергия находила выход в многочисленных посещениях субъектов Российской Федерации. Там он представал перед публикой не только гостем, но и председателем Высшего государственного совета белорусско-российского союза. И на этот раз, в уральской столице — Екатеринбурге, А.Лукашенко по-прежнему будет значиться в качестве председателя госсовета. Пока остается неясным, почему на заседании этого органа, которое состоялось 2 апреля в Москве, не произошла ожидавшаяся ротация и председателем Высшего госсовета не стал российский президент. Вместо этого поползли слухи о планах создания в российском правительстве министерства по белорусским делам. Говорят, генерировались они из кремлевских кругов.

Представляется любопытным время, на которое выпал нынешний визит А.Лукашенко на Урал, на котором заканчивается граница Европы. В его отсутствие в Минске будет гостить с рабочим визитом российский министр обороны Сергей Иванов. Несмотря на перемещение из должности секретаря Совета безопасности, он по-прежнему остается, пожалуй, самой близкой к В.Путину и влиятельной фигурой в российском руководстве. На сегодняшний день в белорусском руководстве аналогичным влиянием пользуется государственный секретарь Совета безопасности. Именно на Урала Латыпова возложена задача вывести А.Лукашенко из изоляции, в которую он сам себя вогнал. Как бы на Урале попасть в Европу. Задача более чем ответственная и, к сожалению, бесперспективная. Свидетельством тому служит раскручиваемая антизападная кампания. Когда все ждут проведения президентских выборов. Так вот эти две влиятельных персоны, профессиональные разведчик и контрразведчик, первым делом встретятся с глазу на глаз. Можно вспомнить, что Сергею Иванову Минск знаком. Здесь он учился на престижных в советские времена Высших курсах КГБ. А Урал Латыпов до прихода на службу к А.Лукашенко был заместителем начальника этого закрытого учебного заведения. Теперь оно называется Институт национальной безопасности.

Официальной целью приезда С.Иванова является участие в совместном заседании коллегий министерств обороны союзных государств. Решение о проведении данного мероприятия было принято 2 апреля на заседании Высшего госсовета. А сроки поездки А.Лукашенко на Урал окончательно были согласованы 9 апреля по телефону с губернатором Свердловской области Эдуардом Росселем. Но за прошедший год административная карта Российской Федерации существенно изменилась. Появились федеральные округа. И теперь, надо полагать, по протоколу А.Лукашенко придется встретиться не только с губернатором, но и наместником В.Путина на Урале генералом Латышевым. Похоже, именно такой уровень взаимоотношений с Россией определяется для А.Лукашенко. Ведь многие московские, да и минские политики полагают, что если белорусско-российская интеграция во всех областях будет идти по заданной путинской жесткой схеме, то Беларусь вполне может стать восьмым федеральным округом Российской Федерации. Может быть с какими-то суверенными правами по типу Татарстана.

Общеизвестно, что самой продвинутой областью белорусско-российской интеграции является сотрудничество оборонных и других силовых ведомств. В повестке дня предстоящего совместного заседания оборонных ведомств значится обсуждение военной доктрины союзного государства. Очевидно, что она вряд ли будет отличаться от собственно российской военной доктрины.

*Окончание на стр.3*

# Выстава дасягненняў ВПК

Пад Мінскам плануецца адкрыццё выставы ваенна-прамысловага комплексу Беларусі. Пад выставачны комплекс, дзе будуць паказваць ўзоры беларускага ўзбраення, будзе адмыслова пераабсталяваны адзін з ваенных гарадкоў, размешчаны на поўнач ад Мінска.

# У кампаніі з Кітаем і Расіяй

Служба іміграцыі і натуралізацыі ЗША ўвяла ў дачыненні да грамадзянаў Беларусі візавы рэжым пры транзітным перасоўванні праз тэрыторыю гэтай краіны. Разам з Беларуссю ў «чорны» спіс патрапілі таксама Расія і Кітай. Прычыны такога рашэння пакуль не каментуюцца.

НАДВОР'Е




Курс наяўнага долара на «чорным рынку»
1335

## «Белэнерга» з неплацельшчыкамі цырымоніцца не будзе

Са словаў віцэ-прэзідэнта канцэрна «Белэнерга» Яўгена Мішука, канцэрнам у першым квартале 2001 года было выпрацавана 7 мільярдаў кВтг электраэнергіі, што на 8% менеі ад аналагічнага перыяду 2000 года, спажыта 9,2 мільярда кВтг — на 3% менеі, чымсьці ў першым квартале летась. Цеплаэнергіі за сёлетнія першыя тры месяцы было адпушчана 13 мільёнаў Гкал, што на 2,2% болей за першыя тры месяцы мінулага года.

Не знікае праблема неплацяжоў. Узровень аплаты за электрычную і цеплавую энергію не перавышае 81,5%, і зараз запазычанасць складае 423,3 мільярды рублёў. Прычым з іх 275 мільярдаў рублёў, ці 65% ад усёй сумы прыпадае на сельгасспажыўцоў. Да 29 мільярдаў рублёў павялічылася запазычанасць прадпрыемстваў і арганізацыяў бюджэтнай сферы. На 1 красавіка яны аплацілі толькі 64% спажытай электраэнергіі. Самы нізкі ўзровень аплаты тут ва ўстановах міністэрства абароны — 33%. Неабходна дадаць, што толькі 40% ад агульнай сумы плацяжоў паступаюць у грашовай форме, астатняе – бартэр. Напрыклад, такія буйныя заводы, як БМЗ і МТЗ, за мінулы год расплачваліся з «Белэнерга» выключна сваёй прадукцыяй.

Канцэрн штогод павінен Расіі за імпартаваную электраэнергію 60-90 мільёнаў долараў, а з 13 красавіка Расія збіралася ўвесці больш жорсткія мытневыя правілы, па якіх аплата бартэрам будзе немагчымая. Так што адпаведныя захады мусіць прымаць да беларускіх спажыўцоў і «Белэнерга». Каб атрымаць свае грошы, канцэрну і раней даводзілася дзейнічаць радыкальна. На 7 гадзінаў ад энергасістэмы адключаўся БМЗ, а ўвогуле за першыя тры месяцы гэтага года такіх адключэнняў самым розным спажыўцам было каля 1,5 тысячы, а таксама больш за 8 тысячаў абмежаванняў паставак энергіі.

Па словах Я.Мішука, такая пазіцыя да неплацельшчыкаў надалей будзе станавіцца яшчэ больш жорсткай, бо да канца гэтага года пастаўленая задача дабіцца павышэння ўзроўню аплаты да 100% і як мінімум 70% з іх грашыма.

**Алена ЛАБАНАВА**

ІНТЭГРАЦЫЯ

## «Слаўнафта» прапануе новыя праекты

Усе дамоўленасці, дасягнутыя раней паміж Рэспублікай Беларусь і расійскай нафта-газавай кампаніяй «Слаўнафта», выконваюцца: рэканструкцыя Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода ідзе па графіку. Таму ўрад Беларусі і далей будзе падтрымліваць гэтыя працэсы. Пра гэта заявіў А.Лукашэнка, прымаючы кіраўніка ААТ «Слаўнафта» Міхаіла Гуцэрыева.

М.Гуцэрыеў у адказ паведаміў, што рэканструкцыю Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода плануецца завершыць на тры месяцы раней тэрміну. А гэта значыць, што хутчэй пачне дзейнічаць комплекс глыбокай перапрацоўкі нафты. Гэта будзе адно з самых дасканалых і магутных прадпрыемстваў не толькі ў СНД, але і ў Еўропе. Кіраўнік «Слаўнафты» адзначыў таксама, што ён прыехаў з новымі праектамі ў галіне перапрацоўкі і здабычы нафты. У 2001 годзе «Слаўнафта» плануе павялічыць здабычу вуглевадароднай сыравіны да 15 мільёнаў тонаў. У далейшым штогадовы рост яе аб'ёмаў будзе складаць па 1 мільёну тонаў.

**БелаПАН**

## Чацвёртыя вымярэнцы



Разумныя людзі кажуць, вучаць нас, па-савецку адукаваных, што ёсць чацвёртае вымярэнне. Калі вусень або якая найпрасцейшая казюрка існуюць у адным вымярэнні, сабака — у двух, а чалавек – у трох, дык анёлы амаль што спрэс жывуць у чатырох. Бо чацвёртае вымярэнне – гэта час. Калі ён для цябе не існуе, калі табе мінулае, сучаснасць і будучыня ўсяк-абыяк, – лічы, што зрабіўся анёлам.

Я раней гэтага не ведаў і дужа злаваўся на нашых бюракратаў, бо так свет у нас зараз пабудаваны, што без гэтых кабінетных вычварэнцаў — аніяк. Яны найважнейшыя людзі на свеце: складаюць паперкі і хукаюць на пячаткі. Можа хукнуць праз месяц і бясплатна, а можа хукнуць сёння і за грошы. Можа ўвогуле не хукаць, бо няма настрою. Не баіцца, сабака, ні суда, ні скаргаў, ні праклёнаў, ні дэкрэтаў свайго «празідэнта». Сядзіць, «маладой прагмацік», увабраўшы галаву ў плечы, плеш сваю гладзіць і пасміхаецца з тваёй бяды: грошы давай, «масква слязам не верыт».Табе прыпякае, а яму — усё адно, і час для бюракрата – катэгорыя філасофская, здатная да чароўных пераўтварэнняў. Напрыклад, сёння ты злосны, сварышся, пагражаеш яму міліцыяй і гатовы, здаецца, на месцы забіць, стаптаць на пыл гэтую юду, падлу гемаройную, гэтага чарнільнага слімака, хабарніка, гэты мех з квітанцыямі, а праз месяц... Уга! Праз месяц робішся лагодным, салодкім, мяккім і падрыхтаваны да таго, каб табе завінцілі ўсе мазгі на ўсе закруткі. Ты ўжо пахадзіў па начальніках гэтай трасцы і пабачыў, што яны таму і начальнікі, што перасягнулі ў навуцы сваіх вучняў, што такой гідоты яшчэ свет не бачыў. А калі ў смелых думках ты пачынаеш будаваць па гэтай аналогіі ўсю бюракратычную вертыкаль, дык наверсе ўяўляеш такога дасканалага вычварэнца, такога Гогу Піцерскага, што застаецца толькі прасіць Пана Бога ляснуць бліскавіцай у тое кубло і выпаліць яго дашчэнту, каб нават і не смярдзела.

Але ж нічога не бывае проста так. Усякая ўлада – ад Бога, вучаць нас маскоўскія папы. Улада пякельнага бюракрата даецца нам, мусіць, каб парабіліся анёламі. Яно і праўда, наплюй на час і стане лёгка. Выпі літры з два. Перайдзі ў чацвёртае вымярэнне. Там усё стаіць на месцы, ніхто нікуды не рыпаецца. Там сацыялізм з калгасамі і пяцігодкамі. Там на стале вечная бульба, гуркі, сала, самагонка і чэрствы нясмачны хлеб. Там успацелыя перадавікі, бязногія воіны-інтэрнацыяналісты, пахіленыя хаты, перакуленыя трактары і гразкія вуліцы. Там чырвона-зялёныя пузатыя начальнікі з сінімі насамі і ў чорных «Волгах». Там парторгі, зампаліты, лектары, праграма «Врэмя», палітінфармацыі, суботнікі і сталіца Масква. Там усе маўчаць у шапку, бо баяцца. Там п'юць як коні, бо жыць не хочуць. Успомнілі? Што было, тое і будзе, гавораць нам бюракраты.

А ці праўду яны кажуць?

**Аляксандар ДУБРАВІН**

## Давёў краіну да ручкі

З жыхароў горада Барысава ў добраахвотна-прымусовым парадку збіраюцца грошы на пасяўную. Упершыню за сем гадоў праўлення А.Лукашэнкі гэта «высакародная» справа не абышла нікога, нават бюджэтнікаў.

Абстаўлена ж усё так, быццам людзі выключна па добрай волі аддаюць дзённы заробак калгасам і саўгасам: па школах, напрыклад, на мінулым тыдні хадзілі спісы, дзе кожны настаўнік павінен быў паставіць за гэта свой подпіс. Толькі чамусьці, каб падштурхнуць настаўнікаў «ахвяраваць» грошы на пасяўную, дырэктары барысаўскіх школ спасылаліся на пастанову Мінаблвыканкама пад №143 ад 28 лютага і на аналагічны загад Барысаўскага гарвыканкама пад №113Р ад 3 сакавіка 2001 года.

А вось работнікаў некаторых прадпрыемстваў горада проста паставілі перад фактам, што іх дзённы заробак будзе пералічаны на пасяўную, у прыватнасці такая інфармацыя ёсць па СП «Фрэбор» і па «Аўтагідраўзмацняльніку». Па словах старшыні Барысаўскай рады БНФ Анатоля Аскеркі, які сам працуе на «Фрэборы», значная частка работнікаў гэтага прадпрыемства адмовілася б аддаваць свае «кроўназаробленыя» дзяржаве.

Не пажадалі ж, напрыклад, добраахвотна развітвацца са сваімі грашыма барысаўскія прадпрымальнікі, якім прызначылі таксу ў памеры не менш за 10 тысяч беларускіх рублёў з асобы і ад 10 тысяч да 1 млн. рублёў з кожнай фірмы у залежнасці ад яе даходаў. Такі пачын прадпрымальнікаў, магчыма, падтрымаюць і таксісты.

**Зміцер БУЛАЙ**

## У Мінску пройдуць Брандэнбургскія дні эканомікі

VI Брандэнбургскія дні эканомікі пройдуць у Мінску 26-29 красавіка. Арганізуюць іх Беларуская гандлёва-прамысловая палата і Прамыслова-гандлёвая палата Франкфурта-на-Одэры пры падтрымцы МЗС Беларусі.

Праграма мерапрыемства ўключае правядзенне семінара на тэму «Спрыяльныя стартавыя ўмовы для пашырэння вашай дзелавой дзейнасці ў краінах Еўрапейскай супольнасці», які арганізуецца пры садзейнічанні Беларускага саюза інвестараў і «Інвестар Цэнтр Остбрандэнбург», а таксама кантактна-кааперацыйнай біржы з удзелам беларускіх і нямецкіх суб'ектаў гаспадарання, наведванне прадпрыемстваў па інтарэсах.

**БелаПАН**

ФОТАФАКТ



Экалагічны падарунак насельніцтву Дзяржынска ад мясцовага льнозавода

Фота IREX/ProMedia

## Звярынца не будзе

Спыненае фінансаванне экалагічнага праекта «Заалагічны куток» і добраўпарадкаванне паркавай зоны ў раёне форта №5 у вёсцы Гершоны, што месціцца ў 6 кіламетрах ад Брэста. Новая пасяўная высмактала грашовыя сродкі, а выканаўца работ ПМК-55 «Брэстводбуда» прымушаны перакінуць тэхніку на сельскагаспадарчы аўрал. Стварэнне турыстычна-экскурсійнага аб'екта на плошчы 69,5 гектара адкладаецца на нявызначаны тэрмін.

Спрэчная праблема — ці патрэбен Брэстчыне, дзе ёсць сусветна вядомы запаведнік «Белавежская пушча», уласны заапарк – ужо быццам бы пройдзены этап на карысць спраўджвання новай ідэі. Пінскі інстытут «Палессегіправодгас», які займаецца праектаваннем аб'ектаў меліярацыі, выканаў раней атрыманае ад аблвыканкама тэхнічнае заданне. З-за эканоміі сродкаў вырашана абмежавацца будаўніцтвам вальераў для аленяў, казуляў і дзікоў, а таксама для часовага ўтрымання траўміраваных птушак. Расліннасць у маляўнічай мясцовасці пакінулі ў натуральным выглядзе. Для зручнасці наведвальнікаў плануецца праклесці пешаходныя сцяжынкі і ўпарадкаваць пляж на возеры Чарвянка. У форце ствараецца музейная экспазіцыя артылерыйскай зброі. У комплексе прырода, заапарк і музей павінны былі прыцягнуць сюды паток турыстаў, у тым ліку і замежных.

Увесь кошт работ па будаўніцтве звярынца і добраўпарадкаванні паркавай зоны ацэнены ў 250 мільёнаў рублёў. За папярэдні год і сёлета выдаткавана толькі 35 мільёнаў. Як мінімум, сямігодка спатрэбіцца, каб Брэст займеў свой заапарк.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ЭКАЛОГІЯ

## Брэст– памыйка для адходаў

85 тонаў вадкасці ў 200-літровых металічных і пластыкавых бочках захоўваюцца на складах брэсцкай мытні і мытні «Заходні Буг» яшчэ з 1999 года. Нетрывалая тара дала цечу, і з падлогі едкі ручай выплывае за дзверы...

Эксперты Інстытута фізіка-арганічнай хіміі Нацыянальнай Акадэміі навук лабараторным метадам дакладна вызначылі, што змесціва ў бочках іншае, чым занатаванае ў дакументах. А менавіта: замест арганічнага растваральніка *«Ammonethan»* нямецкай вытворчасці, вадкасць змешаная са спірту, вады і аміяку. Гэта ніякім чынам нягоднае для якой-небудзь прамысловай вытворчасці рэчыва. Яго вывозілі з іншай краіны (эксперты называюць Германію, Польшчу і Чэхію), каб выліць дзе-небудзь на Беларусі.

Цікава, што менавіта праваахоўныя органы Нямеччыны паведамілі першымі ў Інтэрпол дадзеныя аб існаванні нелегальнай транспарціроўкі хімічных адходаў за свае ўсходнія межы. Расія адрэагавала на гэта ў траўні 1999 года, калі быў забаронены ўвоз 136 бочак фальшывага растваральніка з Чэхіі ў Калінінградскую вобласць. І хаця на Беларусі валодалі такой інфармацыяй, брэсцкае ААТ «Кварта плюс» бесперашкодна працягвала «забяспечваць» 5 прыватных прадпрыемстваў Мінска падробным рэчывам *«Ammonethan»*.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Для «МакДональдса» Брэст непрыступны

Няўдалай апынулася спроба мінскага прадстаўніцтва знакамітай фірмы гамбургераў пашырыць геаграфію сваіх паслугаў да заходніх межаў Беларусі. Як адзін з прэтэндэнтаў на пустыя цяпер будынак былога піўнога рэстарана «Белая вежа» плошчай у 1.000 квадратных метраў у цэнтральнай частцы Брэста «МакДональдс» не змог раскашэліцца на 200 мільёнаў рублёў. Нікога іншага такі дарагі аб'ект таксама не цікавіць.

Між тым, сітуацыя «сам не гам і другому не дам» створаная дзяржаўнымі банкірамі. 110-ы брэсцкі філіял АСБ «Беларусбанка» пралічыўся з гарантыямі пад валютныя крэдыты ранейшым гаспадарам і ўрэшце атрымаў ад неплацежаздольных банкрутаў адзіную закладную маёмасць – гэты самы будынак.

**Галіна БАРАВАЯ**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## Не вер, калі дзеляць «па-брацку»

Як мыльны пухір лопнулі спадзяванні берасцейскага чынавенства на інтэграцыйнае супрацоўніцтва з Варонежскай вобласцю. Расіяне адмовіліся прымаць вахтавыя брыгады механізатараў з Палесся, а ўсе ранейшыя дамоўленасці скасавалі, палічыўшы іх рэкламнай спекуляцыяй у выбарчай кампаніі былога губернатара.

Яшчэ 10 траўня 2000 года ў Брэсце сустракаліся старшыня аблвыканкама Васіль Далгалёў і старшыня ўрада Варонежскай вобласці Аляксандр Сысоеў. Дамаўляліся на паэтапнае асваенне 15 тысячаў гектараў чарназёму пад вырошчванне зерневых культур у маланаселеным Панінскім раёне. Стартавы капітал мусіў быць з так званага саюзнага бюджэту, а затым – ад абарачэння прадукцыі. У прыватнасці, увесь фураж паступае на свінакомплекс саўгаса-камбіната «Белавежскі», а расійскую долю ён кампенсуе пастаўкамі мяса.

Дырэктар «Белавежскага» Уладзімір Макарэвіч наракае, што расіяне хлусілі раней, ашукваюць і цяпер. Для 72-тысячнага пагалоўя свіней усё завозіцца з Расіі: збожжа, рыбная мука, фасфаты і г.д. «Мы ім плацім, — сцвярджае У.Макарэвіч, — яны дыктуюць цэны на мяса. А набыўшы яго, вязуць гатовую прадукцыю: сасіскі, каўбасы, паштэты. Прадаюць, канечне, утрая даражэй».

У мінулым годзе саўгас-камбінат хоць і прадаў 9 тысячаў тонаў свініны, але застаўся ў стратах. Фінансавыя саступкі дзеля лозунгаў «інтэграцыі» абярнуліся шматмільённымі даўгамі.

**Галіна БАРАВАЯ**




СУД

## «Брестский курьер» перамог Дзяржкамдрук

Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь прызнаў несапраўдным папярэджанне Дзяржкамдруку, вынесенае 26 студзеня бягучага года незалежнай газеце «Брестский курьер».

Нагодай для папярэджання стала публікацыя «Каб сталіца ведала», у якой згадвалася дзейнасць каардынацыйнай рады «Рэгіянальная Беларусь». На думку Дзяржкамдруку, газета, надрукаваўшы артыкул, выступіла ад імя незарэгістраванай упраўленнем юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама грамадскай арганізацыі, чым парушыла арт.5 Закона аб друку.

13 красавіка суддзя Маркоўскі прызнаў, што згаданая публікацыя не была падрыхтаваная ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Суд прыняў рашэнне спагнаць з Дзяржкамдруку судовыя выдаткі, якія склалі каля 72 тысячаў рублёў.

**Прэс-служба ГА «БАЖ»**

# Са справы Завадскага зніклі два тамы дакументаў

## Так сцвярджаюць у лісце да грамадскасці следчыя

*Кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак атрымаў ліст, аўтары якога называюць сябе следчымі ў справе зніклага аператара ОРТ Зміцера Завадскага. Яны просяць свайго былога калегу агаласіць звесткі, «цікавыя для грамадскасці». У лісце паведамляецца, што з матэрыялаў следства, раней сабраных следчымі, некуды зніклі «два тамы дакументаў».*



Фота Ул.ШЛАПАКА

Паводле невядомых аўтараў, гэта неяк звязанае са зменай кіраўніцтва рэспубліканскай пракуратуры, якую пасля Алега Бажэлкі ўзначаліў Віктар Шэйман. Таксама ў лісце сцвярджаецца, што міністр Уладзімір Навумаў, якому Аляксандр Лукашэнка даручыў каардынаваць працу следчых розных ведамстваў, «у расследаванне не ўмешваўся», а «ўсе ўказанні следчым ідуць з пракуратуры». Адтуль ужо прыйшоў загад завершыць расследаванне як найхутчэй – да канца красавіка. Між тым, аўтары мяркуюць, што абвінавачаныя ў справе Завадскага могуць мець дачыненне да справаў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, аднак у спешцы яны не маюць магчымасці праверыць гэтыя версіі.

Далей ананімныя аўтары ліста падрабязна распавядаюць пра тое, што ім вядома аб знікненні Зміцера Завадскага, а таксама як ідзе далей расследаванне гэтай справы. Вось вытрымкі з ліста, якія тычацца магчымага ўдзелу ў справе былога спецназаўца і сябра прафашыстоўскай арганізацыі РНЕ Валерыя Ігнатовіча ды ягоных падзельнікаў.

*«07.07.2000 г. Савушкін, Ігнатовіч і Малік у аэрапорце «Мінск-2» здзейснілі выкраданне Завадскага. Перад гэтым вялі працяглае назіранне за домам, дзе жыў Завадскі. Суседзі неаднаразова бачылі аўтамабіль Ігнатовіча, які стаяў ля пад'езда. Абвінавачваецца па гэтым эпізодзе таксама па арт. 123 ч. 2. У той жа дзень усе чацвёра з'ехалі ў Чачню.*

*Ігнатовіч і Гуз былі ўстаноўленыя супрацоўнікамі міліцыі пасля эпізода 22.03.00 г., калі адзін з суседзяў запомніў нумар аўтамашыны, якая на працягу 3-х дзён стаяла ля дома, дзе было здзейсненае забойства 5 азербайджанцаў. Высветлілася, што дадзеную аўтамашыну за тыдзень да злачынства набыў Ігнатовіч. Былі ўстаноўленыя яго сувязі. Доўгі час ён знаходзіўся ў росшуку і быў затрыманы 03.08.2000 г. на сваёй аўтамашыне «Фольксваген» разам з Гузам. У адносінах да іх было здзейсненае спачатку прэвентыўнае затрыманне. Праз 3 тыдні былі прэвентыўна затрыманыя таксама Савушкін, Малік, якія пасля вяртання з Чачні ад следства не схаваліся, а таксама Рагацэвіч Максім і Кабзар Антон, у далейшым выпушчаныя на волю з-за недаказанасці іх віны.*

*Па Завадскім было ўстаноўлена, што рухаліся яны пасля яго выкрадання ў аэрапорце па Маскоўскай шашы, і меркавалася, што на гэтым напрамку і было пахаванае цела, калі той быў забіты. У аўтамашыне Ігнатовіча была знойдзеная лапата. Па невялікіх кроплях крыві, якія меліся на ёй, была праведзеная геномная экспертыза, якая ўстанавіла, што кроў належыць менавіта Завадскаму. Для параўнання аналізу выкарыстоўвалася шапка, якая належала Завадскаму, а таксама кроў яго бацькоў.*

*Па некаторых эпізодах віна абвінавачваемых даказваецца правядзеннем адэралагічнай (па азербайджанцах) і геномнай (па Завадскім) экспертызаў.*

*У дадзены момант ад кіраўніцтва паступіла ўказанне аб хутчэйшым заканчэнні справы. Кіраўнік аператыўна-следчай групы Навумаў сам у ход следства ўмешвацца не жадаг, указанне ідзе ад кіраўніцтва пракуратуры. Перашкодаў у следстве ніхто не чыніць, абмяжоўваючыся толькі ў тэрмінах расследавання, хаця ўсе добра разумеюць, што справа на дадзены момант «сырая» (такія складаныя справы за такі кароткі тэрмін не расследуюцца), і ў судзе могуць узнікнуць праблемы. Да таго ж, зараз праводзіцца работа па выяўленні новых эпізодаў, у якіх задзейнічаны абвінавачваемыя. Практычна па кожным з эпізодаў удзельнік злачынства не ўстаноўлены. Канчатковае кола абвінавачваемых па ўсіх эпізодах да канца не вызначана. Таксама мы не выключаем, што дадзеная злачынная група мае адносіны не толькі да выкрадання Грачова і Завадскага, але і да іншых палітычных злачынстваў, у тым ліку і да знікнення Захаранкі і Ганчара.*

*Абвінавачваемыя паводзяць сябе нахабна. Ігнатовіч на допыты хадзіць адмаўляецца (яго носяць на насілках), пры гэтым ён скандзіруе «Да здравствует президент!», паводзіць сябе абуральна, следчых, якія прыходзяць да яго, усяляк абражае. Як і трое іншых абвінавачваемых, адмаўляецца прымаць удзел у якіх-небудзь следчых дзеяннях. Гаворыць, што не сумняваецца ў сваім хуткім вызваленні, пагражае выразаць сем'і следчых. З яго словаў можна зразумець, што ён паінфармаваны і аб складзе групы, і аб асобах следчых, іх вобразе жыцця.*

*У склад следчай групы ўваходзяць пракурор аддзела і следчы Беларускай транспартнай пракуратуры (расследуюць эпізод з Завадскім), пракурор аддзела Беларускай ваеннай пракуратуры Мінска, 2 следчыя СК МУС, следчы Мінскай абласной пракуратуры, следчы пракуратуры РБ з следчага аддзела па аргзлачыннасці і карупцыі пракуратуры РБ. Кожны займаецца сваім эпізодам і дакладвае толькі кіраўніку следчай групы, нам.начальніка следчага аддзела па барацьбе з аргзлачыннасцю і карупцыяй пракуратуры РБ. У апошні час паміж следчымі МУС і пракуратуры, з аднаго боку, і КДБ РБ, з іншага – назіраецца рознагалоссе, кожны спрабуе самастойна атрымліваць інфармацыю, якой практычна не дзеляцца».*

Былы следчы пракуратуры Алег Волчак сцвярджае, што яму, скарыстаўшыся старым знаёмствам з гэтай установай, удалося праверыць некаторыя са згаданых фактаў. Яны пацвердзіліся. У выніку сп.Волчак даверае атрыманай інфармацыі, як ён сцвярджае, на 95%. На ягоную думку, гэтыя звесткі дапамогуць грамадскасці мець пэўнае меркаванне як пра справу знікнення аператара ОРТ Зміцера Завадскага, гэтак і пра ўдзел у гэтай справе беларускіх уладаў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



Фота IREX/ProMedia

Аэрапорт «Мінск-2». Тут быў выкрадзены аператар Дзміцер Завадскі

# Змушаныя апалагеты дэкрэта №8

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Аднак грамадскія арганізацыі скардзяцца, што рэгіянальных адгалінаванняў Дэпартамента па краіне няма, і ім давядзецца з усёй Беларусі з'язджацца ў Мінск, таму ўзнікнуць вялікія чэргі, і тэрмін атрымання дазволу на карыстанне гуманітарнай дапамогай можа расцягнуцца немаведама на колькі.

Закрануўшы тэму стаўлення грамадскіх арганізацыяў да дэкрэта, намесніца Віктара Кучынскага сказала, што аб падрыхтоўцы гэтага дакумента іх папярэджвалі загадзя. Дэпартамент тады запэўніў, што «будзе адстойваць інтарэсы грамадскіх арганізацыяў». Але ўжо праз хвіліну Ія Малкіна сказала, што Дэпартамент – найперш дзяржаўны орган, таму павінен выконваць у першую чаргу волю дзяржавы, да таго ж, калі А.Лукашэнка падпісаў гэты дэкрэт, то значыць адмяняць яго ён не будзе.

Напрыканцы прэс-канферэнцыі з'явіўся дырэктар Дэпартамента Віктар Кучынскі і даволі раздражнёна ўслед за сваёй намесніцай пачаў даводзіць, што



Фота IREX/ProMedia

В.Кучынскі даводзіць пра найлепшыя ўмовы для гуманітарнай дапамогі, створаныя ў Беларусі

гуманітарная дапамога з году ў год расце і, «па меркаванні замежных партнёраў, у Беларусі працаваць прасцей, чымсьці ў іншых краінах».

А тым часам Палата, дзе па сумяшчальніцтве дэпутатам В.Кучынскі, ніяк не можа разгледзець праект Закона аб гуманітарнай дзейнасці, які распрацоўваўся цягам трох гадоў. Замест гэтага Лукашэнка проста сачыняе дэкрэт, які адразу адназначна асудзілі ў свеце.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Дзяржава хаваепраблему Чарнобыля ад грамадства

Не маючы рэальных эканамічных магчымасцяў эфектыўна дапамагаць людзям і ахоўваць здароўе нацыі, дзяржава «здымае праблему Чарнобыля і ўсё глыбей хавае яе ад грамадства». Такое меркаванне выказаў БелаПАН прэзідэнт беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы. Ён лічыць мэтазгодным «узнімаць» чарнобыльскую тэму перад Расіяй, якая з'яўляецца правапераемніцай былога Савецкага Саюза. Аднак, па словах Грушавога, «гэтую праблему на дзяржаўным узроўні ніхто ўзнімаць не збіраецца».

Разам з тым ён адзначыў дапамогу замежных дабрачынных арганізацый у рэалізацыі чарнобыльскіх праектаў. Так, паводле звестак Грушавога, за 12 гадоў дзейнасці фонду «Дзецям Чарнобыля» гуманітарную дапамогу атрымалі больш за 2 мільёны чалавек; звыш 150 тысяч беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад наступстваў катастрофы, змаглі дзякуючы замежным партнёрам прайсці аздараўленне ў розных замежных цэнтрах. Аздараўленне дзяцей у Беларусі, лічыць Грушавы, пакуль не мае сэнсу, паколькі экалагічная сітуацыя ў краіне не адпавядае міжнародным стандартам рэабілітацыі, а прадукты харчавання небяспечныя для здароўя.

Фонд «Дзецям Чарнобыля» паставіў у Беларусь медыцынскае абсталяванне, інструментарый і лекі на суму, якая перавышае 160 мільёнаў долараў ЗША, паведаміў Генадзь Грушавы. Кошт аналагічных грузаў, якія прыбылі ў краіну па ініцыятыве фонду, складае каля 500 мільёнаў долараў. Больш за 240 беларускіх урачоў і медсясцёр былі накіраваныя на стажыроўку за межы краіны; звыш тысячы дзяцей, якія пакутуюць на анкалагічныя захворванні, прайшлі медыцынскую рэабілітацыю ў замежных клініках.

Кіраўніцтва фонду, па словах Генадзя Грушавога, лічыць вельмі важным ініцыяваць самастойную дзейнасць насельніцтва, якое жыве ў пацярпелых ад радыяцыі раёнах. Вось чаму фонд «Дзецям Чарнобыля» падтрымлівае грамадскія аб'яднанні, якія не толькі просяць дапамогі, але і самі гатовы яе прапанаваць.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**

# БНФ рыхтуецца да «Чарнобыльскага шляху»

На чарговым сойме грамадскай арганізацыі БНФ «Адраджэньне» разгледжаны пытанні падрыхтоўкі да прэзідэнцкай выбарчай кампаніі і да «Чарнобыльскага шляху-2001». Па першым пытанню з дакладам выступіў старшыня арганізацыі Вінцук Вячорка, 13 красавіка вызвалены пасля 15-сутачнага адміністрацыйнага арышту. Потым адбылася дыскусія аб сітуацыі з прэтэндэнтамі на прэзідэнцкіх выбарах, аб пазіцыі прадстаўнікоў БНФ у Каардынацыйнай радзе дэмакратычных сілаў. Паводле словаў Вячоркі, праз месяц старшынства ў КРДС пяройдзе прадстаўнікам БНФ: «І нам удасца да канца выканаць пастанову аб тым, што Каардынацыйная рада вызначыцца з адзіным кандыдатам на пасаду прэзідэнта да пачатку збору подпісаў». Падчас дыскусіі былі адхілены заявы некаторых магчымых прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду аб тым, што можна збіраць подпісы адначасова за некалькіх дэмакратычных кандыдатаў. На сойме было таксама падкрэслена, што інфармацыя аб тым, быццам БНФ разглядае магчымасць байкоту прэзідэнцкіх выбараў, не адпавядае рэчаіснасці. Падчас сойма падрыхтаваны заявы і звароты да маючых адбыцца выбараў прэзідэнта, у прыватнасці, зварот да насельніцтва браць удзел у выбарах толькі ў дзень іх правядзення і не ўдзельнічаць у датэрміновым галасаванні.

Падчас сойма была ўхвалена канцэпцыя правядзення мерапрыемстваў у рамках «Чарнобыльскага шляху» ў Мінску, распрацаваная нацыянальным аргкамітэтам па правядзенні мерапрыемства. Прадстаўнікі абласных і некаторых раённых цэнтраў паведамілі аб ходзе падрыхтоўкі мерапрыемстваў на месцах.

Быў прыняты спецыяльны зварот, у якім гаворыцца, што ратыфікацыя пагаднення аб увядзенні адзінай расійска-беларускай валюты, якую ажыццявіла Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, не мае ніякай юрыдычнай сілы.

**БелаПАН**

# Лукашенко — в Зауралье, Иванов – в Минск

## *Разрешив наконец посетить А. Лукашенко Свердловскую область, Кремль указал тот уровень, который приемлем для него во взаимоотношениях с белорусским союзником*

*Окончание. Начало на стр.1*

Как известно, с приходом В.Путина в Кремль она была обновлена. Основным элементом новой российской военной доктрины стало снижение порога применения ядерного оружия. Не исключено, что полноценная часть так называемого союзного государства, коей является Беларусь, также к этому порогу будет иметь еще большее отношение.

Принято считать, что разные доктрины разрабатываются в аппаратных недрах Советов безопасности Беларуси и России. Так что, на первый взгляд, тот факт, что визит С.Иванова в Минск должен начаться беседой с У.Латыповым, вроде бы не должен вызывать дополнительных вопросов. Правда, в графике визитов на 16 апреля под вопросом стоит возможная встреча С.Иванова с А.Лукашенко в полдень. Но сам С.Иванов намерен только в 16 часов приземлиться в Мачулищах. Не совсем понятно в таком случае, кто кого не хочет видеть. Может быть, соратник В.Путина насмотрелся и наслушался А.Лукашенко в Москве? Кстати, именно С.Иванову московские источники приписывают инициативу по замене белорусского госсекретаря СБ Виктора Шеймана. Говорят, разведчику С.Иванову хватило двух встреч. Большая психологическая несовместимость у тогдашнего секретаря российского Совбеза с белорусским коллегой появилась, к примеру, в связи с поведением союзника на мировом рынке оружия. Москву нередко просто «кидали» белорусские союзники. В.Шейман был председателем комиссии по военно-техническому сотрудничеству, в ведении которой находится торговля оружием. Понятно, по чьим приказам производились сделки. Так что с учетом вышеизложенного представляется вероятным, что у С.Иванова с У.Латыповым будет весьма содержательная беседа. В том числе и в отношении складывающейся ситуации вокруг предстоящих президентских выборов в Беларуси. С одной стороны, визит С.Иванова как бы демонстрирует поддержку режиму. С другой, та степень конфиденциальности, с которой С.Иванов намерен провести беседу с У.Латыповым, вызывает подозрительность в намертво связанном с А.Лукашенко окружении. Там полагают, что С.Иванов приехал на разведку после серии визитов в Москву потенциальных кандидатов в президенты Беларуси. Ведь поддержка Кремля нынешнего главы государства до сих пор не очевидна.

При всей своей гордости, В.Путин не может игнорировать консолидированную позицию евроатлантических структур в отношении существующего режима в Беларуси.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

